ББК 81.2 Бел-4
Г51
УДК 808. 26-3

Галоўны рэдактар А. І. Жураўскі
Рэдактар выпуска А. М. Булыка
Памочнік рэдактара Л. І. Рабаданава

Складальнікі:
Т. І. Блізнюк (игде — идолатрия, инквировати — искупъ), А. М. Булыка (идолобесие — издрати, канавацовый — карнекъ), А. П. Груцо (карновый — катуючий), В. У. Мяснікова (истецъ — ияти), Л. І. Рабаданава (издробити — изчести), З. К. Турцэвіч (изчиститися — инквированый), Г. К. Ціванова (искуса — истертися), А. І. Яновіч (кааньє — камяный).

Рэцэнзенты:
канд. філал. навук В. У. Ляпёшкін,
канд. філал. навук Г. Ф. Вештарт

Г $\frac{4602020100-015}{М316(03)-96}$ 83—93

ISBN 5-343-01218-3



# I

**Игде** *прысл.* **1.** *Тое, што і* где *ў* 1 *знач.* И игде они жати будуть тȣ сбираи после нихъ (Скар. КР, 4); Скарбъте собе скарбы на небеси, где ни червѧк$^{s}$ ни ржа не гризеть и игде тати не подкопывають ни крадуть (Цяп., 8); ѡнъ ему повѣдилъ, ꙗкъ і игдѣ вечера вчора$^{s}$шого зас проважон был, же ѡнȣю мнишку долонью по задку ȣдарил (Зб. 107, 163).

**2.** *Тое, што і* где *ў* 2 *знач.* Тогда рече к ней свекровъ еꙗ и где еси сбирала днесъ, и игде працовала (Скар. КР, 5); Коли ми мовено на кажды$^{s}$ день игдеж есть Бг҃ъ тво$^{s}$; приводил то есми собѣ на памет ѡткол сꙗ росплывала во мнѣ дш҃а моꙗ (Пс. XVII, 17б—18).

**3.** *Тое, што і* где *ў* 4 *знач.* но игде же Аще ты пойдеши поиду с тобою (Скар. КР, 5).

**Игемонъ** *наз. Правіцель; валадар, намеснік (прадстаўнік свецкай вярхоўнай улады) якой-н. вобласці.* той Пилатъ былъ на онъ часъ игемоном$^{s}$, то естъ старостою Іерслимскимъ (Будны, 128б); потом ігемон жертву ȣчинилъ идоломъ (Зб. 81, 63).

**Игемония** *наз. Панаванне, праўленне.* Владычество: Игемоніа, самодержство, гетманство, цесарство (Бяр., 211).

**Игла** *наз.* **1.** *Ігла, іголка, прылада для шыцця.* игол украдено десет тисечей (АВК, XXXIX, 203, 1579); нѣкоторие наȣчают же през иглȣ розȣмѣетсꙗ хс҃, а черезъ велблюда погански$^{s}$ народъ (Зб. 259, 190б); ми Карпъ мовилъ, абымъ ему подалъ зъ сѣней иглу зъ нитьми (АСД, I, 316, 1640). ◊ Игла паперная, игла ризская — *назвы іголак па прызначэнні і месцы іх вырабу.* у краме моей... иголъ паперныхъ тисечи две (ИЮМ, XXI, 423, 1625); у краме моей... иголъ великихъ ризскихъ тысечы две (Там жа).

**2.** *Тонкі металічны стрыжань, звычайна з завостраным канцом, рознага прызначэння.* радость человѣка, прикритци ꙗкобы иглою ткнулъ (Скар. КІ, 25б); иного чл҃ка оуколи иглою. и ѡн оумреть (Арыст., 219); ꙗкъ игла, до огнѧ вкіненаѧ ѡдмѣнивши фарбȣ ѡборочаетъсѧ в$^{s}$ огонь: еднакъ натȣра желѣза

не гинетъ, и зостаетъ (Мак., 131); товиѩ... двема иглами колот ѡное дитѧ козал почавшы ѡт головы ажъ до ног (Зб. 752, 274).

**Игленый** *гл.* игляный

**Иглица, икглица** *наз. Шпілька, заколка.* иглицъ осмъ сребреныхъ на шнуркахъ едъвабныхъ до кохтана (ИЮМ, XXVI, 124—125, 1641); кгузики и икглицы сыномъ моимъ записую (Там жа, 125).

**Игляный, игленый** *прым. Іголачны.* Лацвеи бо есьть верблюду скрозь игленые ꙋши проити, нижли богатомꙋ в^s^ королевство божъе ввоити (Цяп., 57б); Дивно въистиннꙋ, и пожитечное ест^s^ подобенство сее: ꙗкъ бовѣмъ иглѧное оушко не змѣщаетъ велбоуда длѧ великои своеи тѣсноты (Каліст, II, 71б); тот богач бꙋдет котори^s^ через тое ꙋхо иглѧное пролезет (Зб. 259, 192б); велблюдъ зараз се почалъ през ꙋхо игленое тиснут (Зб. 752, 476). *Парайн.* иголный.

**Иго** *наз. Цяжар, ноша клопату, абавязкаў.* Кто з неверными иго тѧгнеть кто сѧ самъ въ силу діавол^s^скую черезъ грѣхѡвъ чиненье подаваетъ (Будны, 208); которые на земли под игом терпливости не хотѣли мѣти бг҃а над собою справцею ведлугъ свѧтое справедливости злые дꙋхи которым слꙋжили тѧжких в мукахъ дознали выналезцы (Зб. 107, 105); з^s^ великое жарливости кꙋ хвалѣ Бж҃ой... доброволнѣ на голосъ Сп҃сителѧ своегѡ: возмите иго мое на себе и далѣй: иго бо мое бл҃го и бремѧ мое легко есть, тое иго на себе вложити замыслили и позволили (Ст. бр., 20).

**Иголка** *наз.* 1. *Іголка.* Въ Несвижѣ: нитки, иголки, бумага и ложки (ИЮМ, XXIV, 28, 1713).

2. *Калючка ў некаторых раслін.* лежал ѡны^s^ ст҃ы^s^ исааки^s^ и рꙋшитсѧ в^s^ ѡно^s^ гꙋстинѣ терна на иголках ѡстрых не моглъ (Бельск., 288б).

**Иголникъ, игольникъ** *наз.* 1. *Шкатулка для захоўвання іголак, ігольніца.* в жоны дей моее отняли десять грошей з ыгольникомъ (АВК, XXI, 295, 1558); У матки того Федора Ядвиги Мартиновны в тот же час згинуло грошей двадцать з ыголником (АВК, XXXVI, 290, 1582); с тое дей жоны... зняли... игольникъ с поесомъ купленый за грошей осмъ (Там жа, 44); иголникъ с поесомъ купленый за грошей осмъ (Там жа).

2. *Той, хто вырабляе іголкі ці гандлюе імі.* заставилъ домъ... лежачи в месте гсдрьскомъ Могилевскомъ на улицы... межы домами Свирида поросятника з одное стороны, а Гришка Иголника з другое стороны (АВК, XXXIX, 70, 1578); мы, рымари и седляри вси одностайне, вечными часы жадного такъ зъ меховниковъ, игольниковъ до цеху своего приволокати не маемъ (ИЮМ, IX, 210, 1635).

**Иголница, игольница** *наз. Ігла-рыба (акруглая і тонкая, як ігла).* Напервей у старую комягу рыбы вложоно иголницы сто и трыдцат тисечи (АВК, XXXIX, 277, 1579); харчы въ



дорогу купили розное... щукъ спорыхъ вялыхъ двѣ... иголницы вялой лыки четыри (ИЮМ, I, 23, 1679); Рыбъ вялыхъ купили, щукъ и иголницъ, у Васка Скоробогатого (ИЮМ, II, 22, 1683); Рыбы игольницы, за злотковыхъ три, чинитъ (ИЮМ, XIV, 98, 1700). *Парайн.* игольня.

**Иголный** *прым. Тое, што і* игляный. снаднѣй абовѣмъ верблюдови през оушко иголное пройти, аниж богатомꙋ войти до црствіѧ нбсного (Варл., 128б); велблюд зараз се хотѣлъ през ꙋхо иголное тиснꙋть (Зб. 82, 155б).

**Иголня** *гл.* игольня

**Игольникъ** *гл.* иголникъ

**Игольница** *гл.* иголница

**Игольницкий** *прым. Іголкавы, іголачны; які мае адносіны да іголкі.* сами отъ себе и именемъ братьи своее, въ цеху меховницкомъ и игольницкомъ знайдуючихъ се, добровольне сознали (ИЮМ, IX, 210, 1635).

**Игольня, иголня** *наз. Тое, што і* иголница. на дорогу дали пану Матіяшу рыбы иголни лыкъ два (ИЮМ, X, 89, 1695); купили... язевъ пять и лыкъ десять игольни (ИЮМ, XXII, 15, 1711).

**Игра** *наз.* 1. *Гульня, забава, пацеха.* о томъ хто кого ѡбразить в ыгрѣ (Вісл., 8); имели они игру быти животъ нашъ (Скар. ПБ, 23б); на непотребные речи ꙋтраты безмерные вѣдуть, Иншыи на собаки накладаеть, иншіи на непотребное будованье, иншыи на шаты збыточные, иншыи на пианьство, або на строе... або на игрю (Будны, 62б—63); Вышолес з земли недостаточнои, а по широких мѣстцах перскихъ скачешъ, игри строишъ ꙗкобы мышъ в дому где котов ловных або лапакъ немашъ (Алекс., 7); Тым зась которие сѧ при немъ бавили, росказалъ, абы... все, штобы было красного, и веселого, и вдѧчного, тое емꙋ оуказовали, и розные игры вымышлѧли, абы такими речами мысль свою забавлѧлъ и оутѣшалъ (Варл., 33); еще з дѣтиных лѣтъ не любил игоръ и забавъ всѧких (Зб. 82, 185); што ты мене ѡбсылаешъ играми хлопѧчими (Алекс. 1697, 9).

2. *Рытуальныя язычаскія песні, танцы, гульні.* ѡтложѣмъ бесовскаѧ дѣла. игры и плѧсаниѧ (Чэцця, 29б); ѡколо того столпꙋ рыцерство розмаитые игры кꙋ хвале на именинах кролевы справили (Царств., 71б); ꙋставили посполитым людем ден ст҃ы^s^, на котором теды игри мѣли, справоват ꙗко ѡбыча^s^ бывал в поганства (Бельск., 145б); оуслышалъ игры и танцы, то естъ, радость на небѣ и в^s^ црк҃ви Бж҃ой оуслышалъ, котораѧ сѧ з^s^ навернеnѧ и обачеnѧ сѧ грѣшника покꙋтꙋючого межи Агг҃лами и вѣрными Бж҃ими дѣѧти звыкла (Каліст, I, 17б—18).

3. *Занятак з мэтай забавы, адпачынку, звычайна заснаваны на пэўных умовах.* игръ тѣхъ позычаемъ для... часу скоротанья (Вісл., 29б); о косторех штож частокрот находѧт на пьꙗныи люди ведꙋтсѧ к игрѣ (Там жа, 27б). ◊ И г р а к о с-

точная — *азартная гульня ў косці.* о играх косточных какъ им заповедати (Вісл., 7б); игра шаховая — *гульня ў шахматы.* зри на игрѫ шаховꙋю и поведанье ферьзное с пешками егда сѧ свимают с нею. и раставаютсѧ ѡт неѧ (Арыст., 152).

**4.** *Турнір, паядынак.* в каждоˢ игрѣ и вытечцѣ не был ему жадныˢ подобным (Троя, 3); зошлосе много людꙋ на дивоване, которим реклъ алеѯандер. хто з вас выˢде починат игри (Алекс., 11); в каждоˢ игрѣ и вытечцѣ не был ему жадныˢ подобныи, бо был валечныˢ и велми мужныˢ (Тр. гіст., 67б); Съ копьями не было ледво сто и колькодесять чоловѣкъ, которые тутъ пріѣхали для окрасы, для игры и гонитовъ (АЗР, IV, 297, 1608).

**5.** // *перан. Справа, гаворка.* рымлѧне не ленивеи ѡтпор угром давали, себе и горла своего боронили а в люду угорскомъ великую поражку чынили, паметаючы на то, же в тои битве ѡ их маетность, панство и ѡ здорове игра шла (Атыла, 175); Што сѧ тычетъ згоды, если о згодꙋ свѣтскꙋю игра идет, той ꙗко до сего часꙋ розность календара не вадила (Апакр., 50); Мѣл агемнон дочкꙋ свою именем ефигению ѡ которꙋю то игра шла, але не могли на то ѡтца навести абы ю мѣл ѡфероват (Бельск., 83).

**6.** *Музычны інструмент.* вышла естъ противъ ему дщера его единороженнаѧ, съ бубны и съ играми (Скар. КС, 28); рад играти во вси игры и в гоусли речи его легкы (Неба, 73б); с обоих сторон трꙋбам розным ꙋдарити велѣл вˢ сꙋрмы вˢ бꙋбны вˢ розмаитые игры (Алекс. 1697, 34б—35).

**7.** *Спектакль.* Сѣнь... Называетˢсѧ тыжъ сѣнь, комедіа, кꙋглѧрство и игриско розмаитых игръ (Бяр., 168—169).

**8.** // *перан. Насмешка.* Рꙋгание: Найграванье, шидарство, насмѣванье, оущыпливость, або игра (Бяр., 141).

**Игралищное** *наз. Месца для відовішчаў, гульняў, турніраў.* Сѣновное: Игралищное (Бяр., 169).

**Играние** *гл.* игранье

**Играный** *дзеепрым. ад* играти *ў* 1 *знач.* которомꙋ крол всѣм росказал кланѧтисѧ. гды в трꙋбы и ѡрганы в пищки играно (Каз. Кір., 128—128б).

**Игранье, играние** *наз.* **1.** *Гульня, забава, пацеха.* Никита... детинных сꙗ забавак и игранꙗ стереглъ (Зб. 752, 70б); только того игранья могло быть межи ними на годину (АСД, I, 316, 1640); з молодости науки пилъновалъ, дитинъных сꙗ забавъ и игранꙗ стереглъ (Пралог, 574б).

**2.** *Ігра на музычным інструменце.* ѱалом: Пѣніе, пѣснка, игранье на инстрꙋментѣ або спѣванаа пѣснь (Бяр., 322—323); кажи при собѣ доброму гꙋдцови быт, штобы ѡт тебе дꙋха злог своим гꙋденем вдꙗчным ѡтганꙗл (бо бѣс игранꙗ роскошног терпѣт не може) (Бельск., 96—96б). ◇ Играние птичье — *спевы птушак.* Птиче влъхвованіе: Вѣщба. вѣщене сˢ птахѡвˢ. що бывает сˢ птичего играніѧ и многогѡ голошенѧ, албо щебетанѧ (Бяр., 132).



**3.** *Дзеянне па дзеясл.* играти *ў* 4 *знач.* урадъ по такъ многихъ опытахъ, доводахъ оболонки и играня въ кости и по варыацыи мовы ихъ, сказалъ ихъ на муку (ИЮМ, VIII, 426, 1629).

**4.** *Насмешка.* што за причина была, чомꙋ сꙗ тым измаиловым игранˢемъ ѡбражала Сара (Выкл., 18).

**Играти** *дзеясл.* **1.** *Іграць на музычным інструменце.* црь повелѣл... в пищали играти (Чэцця, 57); Боудьте рады бгꙋ помочникови ншемꙋ, и завспеваите бгꙋ ꙗковлю, играите на псалме а бійте на бꙋбне, псалтыр красен з гꙋслѧми (Пс. XVI, 83б); Трыщан... былъ велми весел и взѧл арьфу и настроилъ и почалъ играти што нацуднеи могъ (Трыст., 24); коли ѡферовано всесожжениꙗ, почали спеват хвалы богу, и трꙋбит в трꙋбы и играт на розмаитых инстрꙋментехъ (Біблія, 498); допытавшисꙗ ахиллѣева шатра, пришол до него играючи жалосно на гуслꙗх (Тр. гіст., 71); діаволъ принесъ старыˢ кожух и ꙋдарил третію дѣвку в голову принесъ теж з собою музыку і играл перед нею (Зб. 107, 164); нехай роскаже панъ нашъ, а слꙋги твои которыи сꙋт перед тобою, пошꙋкают члка, штѡ бы оумѣлъ играть на гꙋслѧхъ (Хран., 217б).

**2.** *Весяліцца (з песнямі, танцамі).* двдъ пророкъ имѣлъ законъ бжий и написанъ на камѧных дошках в кивотѣ какъ бы оу скрыни. перед тымъ веселилсѧ и игралъ радꙋꙗсѧ написаномоу словоу законꙋ бжію (Чэцця, 115б); потешахˢсѧ по всѧ дни веселѧсѧ прѣд нимъ, во всехъ врѣменехˢ тыхъ, играючи по всей вселенˢней земли (Скар. ПС, 15б); не был ни старъ ни молодъ, хто бы не игралъ а не танцовалъ и не веселилъ (Трыст., 126); сѣлъ людъ ести и пити и встали играти (Біблія, 150); коли ꙋпровадили его до мѣста, стали вси ести и пити и играти и беспечне през ночъ ѡнꙋю спати (Тр. гіст., 71б); во иѡане господ бог розꙋмъ так прꙋдко справилъ. прето ѡт веселꙗ играл ꙋсилꙋючисе з живота выˢти, абы хса з маткою его ѡгледал (Зб. 255, 168); наедшисѧ оуже приказали абы приведено Самѱона, и абы игралъ предˢ ними (Хран., 187—187б); было в томъ ѡстровѣ двѣ коли ѡт елинˢской мудрости, а на тыхˢ колахˢ витꙗзи молодые и смѣлые играют (Алекс. 1697, 1).

**3.** *Забаўляцца, пацяшацца.* ѡна как ꙗблокомъ играла головою его (Чэцця, 318); Пророкъ... со львами игралъ ꙗкобы со агньцми (Скар. ІС, 75); вбачылъ ѡное дитѧ ѡбличемъ велми хорошо и възросту цудного играючы з дѣтми малыми (Рач., 309); ѡто тобе шлю пилу мачугꙋ и завоек з золотом, з которими играˢ ꙗко дѣтꙗ (Алекс., 7); играючи над морем з детми ровенники своими то што в цркви виделъ ѡбычаем детинным наследовати хотелъ (Пралог, 631).

**4.** *Праводзіць час за якім-н. заняткам з мэтай адпачынку, забавы.* пріказꙋемь абы землѧнинъ наш не играл изъ жадным такым чюжоземьцом косток (Вісл., 27б); игралъ онъ со мною въ карты (АВК, XVII, 371, 1541); король позвати его велелъ,

а ѡн в шахы игралъ (Трыст., 46); игръ жадных не мил8емы, але коли бысмо мѣли играт наши и наших продков справы росчитаемы, а кгды се маем смѣꙗт, плачем и вздыхаем (Бельск., 179); Аѳанасъ Дроздъ... поведилъ, же сее ночы въ дому Лаврына Фарынника... зъ челядникомъ и хлопцомъ Садовского въ кости игралъ (ИЮМ, VIII, 423, 1629); да б8ди тобѣ вѣдомо по твоей м8дрости, молодом8 в лѣтах, за дари стр8жки бери себѣ, а в шоломъ играти (Алекс. 1697, 8).

**5.** *Гуляць, весяліцца, дурэць (пра жывёл).* ѡбилье бо горное ростеть ем8 и весь звѣрь полскии играеть тамъ (Зб. 262, 29б); Видимо, ано снѣги намъ оубѣгли, землѧ трав8 вып8скаетъ, сады листомъ окрываютсѧ, лѣсы зеленѣютъ, быдло играетъ, рѣки выливаютъ, море оутихаетъ: все сѧ на лѣпшость перемѣнѧетъ и ѡтновлѧетъ (Каліст, I, 114). // *перан.* Во исходе люд8 иїлва ѡт египтоу и домоу ꙗковова з людеи варварских, была июдеѧ ст҃нѧ ег иілѣ ѡбладане ег море обачивши и побегло. а ердань наверноул сѧ вспак, горы почали играти ꙗко бораны (Пс. XVI, 115); хтобы спѣвцемъ бг҃оѡтцемъ, крилъ гол8биныхъ не потребовалъ, абы моглъ возлетѣти на т8ю гор8, длѧ которое рад8ютсѧ и играютъ др8гіи гѡры, а пагѡрки скач8тъ ꙗко баранки (Карп., 1).

**6.** *Гучаць, раздавацца:* час8 ѡдного приде до ксенжентꙗ свꙗтослава и трафит на добр8ю мысль: При которо розмаита м8зыка играла (Пралог, 648б).

**Играчъ, игрячъ** *наз.* **1.** *Той, хто іграе на якім-н. музычным інструменце.* наделалъ естъ царь з древа ѳимова... и гуслей и смытцевъ играчемъ своимъ (Скар. ТЦ, 150); Сопецъ: Играчъ, пищалник, с8рмачъ, корнетиста (Бяр., 153); реклъ Дв҃дъ кнѧжатѡмъ абы постановили з братьи своей играчи на инстр8метехъ м8зыцкихъ на ѱалтырѧх и г8слєхъ и цимбалєхъ, абы се розлегалъ на высѡкости голосъ веселіѧ (Хран., 250б).

**2.** *Спявак.* М8сікій: Спѣвакъ, играчъ (Бяр., 298); М8сіка: ѯы, Спѣваки, або играчѣ на голосы спѣваючіи, або граючіи, ѡт седми вызволеных четвертаа на8ка (Там жа).

**3.** *Гулец (аб аматары азартных гульняў).* Крадуть костыри и вси игрѧчи, которіи костками, або картами, або чимъ инымъ маетности чужіе ѡтнимають (Будны, 90—90б). *Параўн.* игрецъ *у* 2 *знач.*

**Играючий, играючый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* играти *ў* 1 *знач.* постановили левитове... спеваки, емманъ, асафъ и еѳамъ на цымбалех мѣдꙗных играючыи (Біблія, 367); реклъ Са8лъ до сл8гъ своихъ: ѡглꙗдите жь мнѣ когѡ добре играючогѡ, а приведите егѡ до мене. и ѡтповѣдаючи одинъ з сл8гъ реклъ: ото есмь видѣлъ сн҃а Іессеѧ виѳлеемскагѡ оумѣючогѡ играть на г8слехъ (Хран., 217б).

**2.** *Ад* играти *ў* 2 *знач.* мелхола дочка са8лова выгледаючи ѡкном 8зрѣла царꙗ дв҃да выскакуючого и играючого перед гсдем (Біблія, 367); видѣвъ діꙗвола кожух смродливы з пекла носѧчого і ѡную панну им биючого и перед нею играючого, а ѡна танцовала (Зб. 107, 164б); домъ полныи былъ м8жевъ и женъ и были тамъ вси кнѧжата філістімскіе, и посполства, ѡколо трех тысѧчь обоей плоти смотрѧчихъ на Самѱѡна играючогѡ (Хран., 187б).

**3.** *Ад* играти *ў* 3 *знач.* 8зрѣла Сара сн҃а Агарь Аегипчанки играючого з Исаакомъ (Выкл., 18).

**4.** *Ад* играти *ў* 4 *знач.* тыхъ же менованыхъ людей и еще москаля Картавого, въ кости и карты играючыхъ виделъ (ИЮМ, VIII, 423, 1629).

**5.** *Ад* играти *ў* 5 *знач.* михало цесар ѡ жадныи справы и добро речы посполитои не дбал, толко се игрисками бавил, а не толко на кони и возы играючие и гонꙗчие смотрил, але сам на них возницею был (Бельск., 371).

**6.** *У знач. наз. Той, хто іграе на музычным інструменце.* то был ѡтцем играючих на арѳахъ и музыцким начиню (Біблія, 22); слышал теж и глас играючых на архвахъ своих (Зб. 255, 255—255б); имѧ зась брата егѡ Іѡвал той былъ оц҃емъ играючихъ на Арвахъ и м8зыкѡмъ начиню (Хран., 13).

**Играющий** *дзеепрым.* **1.** *Ад* играти *ў* 2 *знач.* они же сѧ диновали Самсону играющему (Скар. КС, 36б).

**2.** *Ад* играти *ў* 5 *знач.* Буди... бегъ играющихъ зверей невиданыхъ (Скар. ПБ, 26б—27).

**Игрецъ** *наз.* **1.** *Той, хто прымае ўдзел у турніры, праціборстве.* (сл҃нце) сн҃ы его соуди и бг҃омолцы. ширмери. игрецы (Неба, 69).

**2.** *Тое, што і* играчъ *у* 3 *знач.* о игрецох косточных как имъ заповедают (Вісл., 27б).

**Игривати, игрывати** *дзеясл., шматкр. ад* играти *ў* 1 *знач.* люди его тые што за Велею ѡсѣли игривали на трубах дубасныхъ (Рач., 298); люди тыи его што за Велею посели игрывали на тр8бах доубасных (Крас., 66).

**Игриско, игрыско** *наз.* **1.** *Відовішча, турнір, праціборства, якія разлічаны на многіх гледачоў.* каммод цесар... кгды се на выдоках и игрисках 8казал, 8браны ꙗко герк8ли в ск8ре лвово в р8ках б8лав8 а под собою лва мѣдꙗног маючи, много сꙗ их ѡт смѣх8 вздержат не могли (Бельск., 241б); игриско пополітое было справовано (Жыц. св., 53); Плѧсалище, игралище: игриско и бѣсилище, тое жъ (Бяр., 106); Подвигъ: Игриско, страданіе, силоване, боюване, бой, битва (Там жа, 107); генилиѧ... шол на мѣстце игрискъ и блазенствъ (Зб. 82, 130—130б). // *перан.* тож сѧ и в срдц8 валчачих дѣетъ, игриско злых д8ховъ з дш҃ею запасы ходѧчихъ, а Бг҃8 и Агг҃лѡмъ на ихъ борб8 смотрѧчимъ (Мак., 329). *Параўн.* игрище *ў* 1 *знач.*

**2.** *Гульня, забава, пацеха.* такъ жесь б8д8чи в кролевствѣ моемъ преднѣйшымъ, и над войсками моими владз8 маючи, игрыскомъ дѣтинным себе оучинилъ (Варл., 9); его родичи

дали до школы где теды жадныхъ игрискъ дѣтинъныхъ не зажи-валъ з дѣтми ходилъ завше до церкви (Пралог, 608б).

**3.** *Святкаванне з гульнямі, песнямі, танцамі як рытуальны язычаскі абрад.* бесѣды бываютъ пѣсни вшетечныи, бѣсовскіи игриска, непристойныи танцы (Каліст, II, 333); радил сты^s сиво-стиѧн... жебы сѧ на наѹку хрстову з снѡмъ своим ѹпорож-нилъ а на вѣдоках и игрысках поганских не бывалъ (Зб. 81, 59); коли великое свѧто свое поганство чынило... тимофе^s сты^s... шол на ѡные их игриска и видоки (Зб. 752, 495б). *Парайн.* игрище *ў 2 знач.*

**4.** *Месца для відовішчаў, гульняў, турніраў.* Игралище; Игриско, мѣсце где гонитвы бываютъ, и поединки, и комедіи (Бяр., 53); Трыверстныѧ основы въ тризнищи: Помостъ троѧ-кій на игрыскѹ (Там жа, 172).

**5.** *Насмешка.* видичи сара такии ѹщипливы игриска, не хотѣла того терпѣти из жалости рекла: выжен неволницѹ и сна еи, бо не бѹдет дидичем снъ неволницы з снѡмъ моим (Выкл., 18). *Парайн.* игрище *ў 4 знач.*

**6.** // *перан. Глумленне, апусташэнне, разбурэнне.* ѧкъ нѣко-лись розгнѣвавшисѧ Бгъ на жиды, выдалъ Іерслимъ на игрис-ко непріѧтелемъ и пановали над ними (Мак., 270).

**7.** *Тэатралізаваны паказ чаго-н.* Сѣнь... Называетсѧ тыжъ сѣнь, комедіа, кѹглѧрство и игриско розмаитых игръ (Бяр., 168—169).

**Игрище, игрыще** *наз.* **1.** *Тое, што і* игриско *ў 1 знач.* коли тог рокѹ припадали в римѣ игрища або видоки которих ѡни пилне стерегли на ѹблагане богов ѡ захование панства римског, кос-тантин ѡных игрищъ зненавидѣл (Бельск., 262б); близко церкви софии сто^s игрища посполитые были (Зб. 752, 398); на тую его смерть ѡсудилъ... то ест на пожертье ѡкрѹтным звѣрем в игрищах посполитых (Зб. 82, 262—262б).

**2.** *Тое, што і* игриско *ў 3 знач.* але ѡнъ познал диаволские игрища, и падшы на колѣна крест хсвъ на кели написал (Зб. 752, 448); радилъ сты^s Севестиѧн хроматови, абы ѹрѧд вымовъ-кою немочи зложил и на видоках и игрищах поганских не бывал (Зб. 82, 362б).

**3.** *Пасмешышча, прадмет насмешкі.* поставил мѧ на притчѹ людемъ и игрищом перед нимъ быхъ (Зб. 262, 19); ѡбачыте, же то што есмо мы терпели, будеть смѣхомъ а игрыщомъ перед ихъ упадком (Атыла, 218—219); Стали есмо поганбенем в сусѣ-дов наших, смѣховишком и игрищем ѹ тых которие ѡколо нас мешкают (Пс. XVII, 71б).

**4.** *Тое, што і* игриско *ў 5 знач.* Сей птоломе^s зас иерѹсолим ѡпановал, а жидовѹ в полон до египта заведши нарѹгавсѧ з них, и смѣшки и игрища з них строивъ также казал ихъ мордо-ват и забиват вездѣ (Кн. Мак., 47б).

**Игрушка** *наз., памянш. ад* игра *ў 1 знач.* Што... будучы еще въ дѣтинствѣ, место игрушки зъ ыными дѣтми... крестилъ оные дети водою (Гарм., 196); присѧгу собе маючы за детин-нѹю игрѹшку, и ничого што присѧгал не стремал (Зб. 752, 75б); занеха^s тыхъ забавъ ѹже досыт тыхъ игрѹшекъ было (Пралог, 550б).

**Игрывати** *гл.* игривати

**Игрыско** *гл.* игриско

**Игрыще** *гл.* игрище

**Игрячь** *гл.* играчъ

**Игуменинъ, игумениинъ** *прым. ад* игуменъ. вси люди вла-дычни и игуменины и тежъ чернецкіи и поповскіе... маютъ того права Майдеборского во всихъ речахъ быти послушни (КЗ, 702, 1498); люди владычины и игуменіины и бояръскіи и поповъ-скіи, тыи вси маютъ быти послушни Майтъборъского права (Там жа, 816, 1500); сами маютъ чоловекѹ игѹмениномѹ за конѧ того заплатити (КВЗС, 99, 1539).

**Игумения** *гл.* игуменья

**Игуменовъ** *прым. ад* игуменъ. въ Михна и зъ братомъ его Олизаромъ полдворища у во Лвичохъ посполъ съ поддаными его милости господарскими и боярскими и игуменовыми (РПП, 120, 1556); ѡнъ павши ѹ ногъ игуменовыхъ, вызнал ѧк его бѣсъ в^s ѡсобѣ ангелско^s През много часовъ зводилъ (Пралог, 587б).

**Игуменский** *прым. ад* игуменъ. люди князскіе и околничихъ, и боярскіе, и игуменскіе, которые въ мѣстѣ живуть и торгомъ ся обыходять, тые бы вси сторожовщину зъ мѣстомъ платили по силамъ (АЗР, I, 362, 1505); съ поддаными его милости господарскими и игуменскими и боярскими земля сполная (РПП, 120, 1556); волно епспѹ оучинити Игѹменіею, тѹю Паннѹ законнѹю, которѹю быти достойнѹю, до оурѧдѹ Игѹменскаго изобрѣтетъ (Зб. вып., 76б).

**Игуменство** *наз. Сан, пасада ігумена; выкананне абавяз-каў ігумена.* то все заразомъ въ моцъ, въ справу и завѣданье свое беруть и на себе уживають, до того часу, покуль архіепис-копство... и игуменство кому иншому зъ ласки нашое бываетъ отдано (АЗР, IV, 16, 1589); ѳеѡдоси^s ... на игѹменство по собѣ блгсвил стефана (Стрыйк., 462б); ѧ... былем сѹжоны^s декре-тованы^s, з презвитерства и ігуменства деградованы^s (Дыяр., 16б); маютъ тую игуменію съ игуменства низложити (АЗР, V, 70, 1641); за прозбою изаслава ксенжати киевского, до мона-стира стго мчнка димитриѧ, на игѹменъство печерское былъ ѡбраны^s (Пралог, 640б).

**Игуменъ, икгумень** *наз. Ігумен.* владыцѣ съ игумена Іоань-ского и съ нашего монастыря Островьского куници не брати, а никакихъ пошлинъ (АЗР, I, 28, 1399); дали ег родители гра-моте оучити нѣкоег манастырѧ цркви игоуменоу (Чэцця, 147б); в епипанію бжѣю вси хрестианы землѧне и пръкгримове ѡдще-пенци и кацере з далеких сторон ис своими бискоупы игоумены албо преѡры с капланы и с законники с крижми (Валх., 85);

ωт владыки выежчалъ игуменъ Никольски[s], а два попы (КСД, 736, 1511); Жаловалъ намъ боярынъ нашъ Антонъ Андреевичъ на игумена Нобельского монастыра (РПП, 289, 1524); пошодшы з города со кресты игумены попы и дьяконы и ворота городовые ωтворыли (Рач., 312); велебны отецъ Аѳанасій Филиповичъ, законникъ игуменъ св. Симеона, покладалъ и ку актикованю подалъ фундушъ (АСД, XI, 8, 1590); Даль тежь посланець великому кнѕю хлѣбь пресвятые Бцы от игумена Сергия (Мам., 184); маетъ митрополитъ... и Епископы и Архимандриты и икгумены и попы и диаконы и всякій священническій чинъ греческого закону, какъ и духовныхъ, такъ и светскихъ судити и радити (ИЮМ, I, 358, 1620); блаженны[s] іларіωн ігумен кѫпятицки[s] волею ся бозскою мяркуючи ѹчиних радѹ зω всею ω хѣ братіею (Дыяр., 152б); Смиренный Іеромонах Іωиль Трѹцевичъ Ігѹменъ со всею ω Хрстѣ Братіею Монастыра Кѹтеинского (Бяр., Прадм.); Брат нѣкоторы[s] пытал ігѹмена пастора мовечи спало на мене дѣдицство што мнѣ радишъ чинити з ним (Зб. 107, 178); позычили грошей отъ отца велебного Гедиона Климовича, игумена Кутеенскаго... тысечы две золотыхъ (ИЮМ, III, 4, 1685); Входѧчіи до Монастырѧ, тратѧтъ оурѧдъ, не могѹтъ быти даже до смрти игѹменами (Зб. вып., 77б).

**Игуменья, игумения** *наз. Ігуменя.* Такожъ по которымъ рѣкамъ бобровымъ и по озеромъ владыки Полоцкого, игуменьи Полоцкоѣ... бобровники бобры гонивали (АЗР, I, 172, 1497); жаловала намъ игуменья манастыря Пречистеньского Витебского, именемъ Маримяна, на священника Пятницкого Витебского Іосифа Жижчика (АЗР, III, 47, 1553); отъ владыки и игуменіи знишченья имен [ь] я церъковные не терьпели (КПД, 287, 1559); ωная теж пѹлхерия двца стая писала до ерѹсалимѹ до васси игѹмени, абы се до ωног феωдосия евтихиянскои сполечности не прихилила, а своих дѹховных дочок перестерегала ωт заразы ωнои (Бельск., 313—313б); законнички въ томъ манастыру мѣшкаючіе... игуменію собѣ вольны будуть обирати безъ поданья нашого и найяснѣйшихъ сукцессоровъ нашихъ, съ посродка самихъ себе (АЗР, V, 6, 1633); епистимия... ѹпала до ног игѹмении мовячи молися за нами (Зб. 752, 153б); панъ Андрей Мочульскій, велебней в Бозе пане Олимпиаде Брасцевичовне, игумене монастыря Шкловского за фортецою Шкловскою стоячого... сей фундушъ... покладалъ (ИЮМ, XXVIII, 203, 1682); Маютъ въ свѣцкихъ Шатахъ... въ Монастырѣ ходѣти, презъ цалый Рокъ и недель шесть, абы такъ Игѹменіѧ ωбачила, ежели вступѹючаѧ до Законѹ, не естъ строптиваѧ и своволнаѧ (Зб. вып., 73б).

**Идати** *гл.* едати

**Иде** *прысл. Тое, што і* где *ў 1 знач.* хочете вѣрити смотрѣте се мѣсто иде же положенъ был (Чэцця, 327б); Вѣрхѹ седми нбсъ... ес коло зодеиское. и идеже соут. вг. нелестныѧ звѣзды (Неба, 63б); Не повѣненъ посщати, на произволеніе, иде же Бгъ произволитъ... бо такъ посщенныи Іерей волочит[s]сѧ по свѣти (Зб. вып., 60).

**Идло** *гл.* едло

**Иднати** *гл.* еднати

**Иднатися** *гл.* еднатися

**Идначъ** *наз. Тое, што і* едначъ. ходотай — посредникъ, иднач (Зіз., 70).

**Идолатрия** *наз. Ідалапаклонства.* учинки тѣлесные, яко то: чужоложество, вшетеченство, нечистота, спросность, идолатріе, чарованя (Пыт., 86).

**Идолобесие, идолобисие** *наз. Тое, што і* идолослужение. пригледался ωномѹ идолобѣсию з великим плачем (Бельск., 16); Коли тамъ пришол ωбачил злое идолобисие и многие чаровники (Зб. 752, 24б).

**Идоложрецъ** *наз. Тое, што і* идолослужитель. быс в граде томъ моужь невѣренъ. идоложрець (Чэцця, 7); гсь нашь іс хсъ распныисѧ за нас и реч идоложерцемъ (Там жа, 60б); любодѣем[s], и ідоложерцем[s] и всим[s] лживымъ, частъ имъ в езере горѧщеи огнем[s] и жупеломъ (Будны, 165); Для того жъ и божое помочи естъ обнажонъ, гды отъ идоложерцовъ пойманъ былъ (Пыт., 55).

**Идолопоклонение** *наз. Тое, што і* идолопоклонство. да не пытаетесѧ на идолопоклонениѧ их глюще (Скар. ДЗ, 29); богъ... ωтводить насъ ωт идолопоклонениѧ поганскаго (Скар. ПБ, 2); он[s] же введе людеи Ізраилевыхъ во идолопоклонение (Скар. ЧЦ, 211б); Параскова... поганския боги ганила... поганов самых ихъ ѹкаряючы и идолопоклонение ихъ (Зб. 81, 63); настало поганское идолопоклонение (Зб. 752, 227б).

**Идолопоклонникъ** *наз. Ідалапаклоннік.* роспадалися божницы, и ѹбило множество идолопоклонниковъ (Зб. 81, 2); то[s] владимир был перше[s] поганин идолопоклонник (Зб. 752, 321).

**Идолопоклонство, идолопоклоньство** *наз. Ідалапаклонства.* справцею былъ идолопоклоньства, если блѹдилъ або не блѹдил (Апакр., 62б). сия же видячы иншые народы ѹверили и ωт идолопоклонства перестали (Зб. 752, 24). *Параўн.* идолопоклонение.

**Идолослужение** *наз. Язычніцкі культ пакланення ідалам.* дьявол ... навчил ихъ ... идолослуженію (Чэцця, 251б); Караеть тѣже и здѣ богъ ідолослѹженіе голодомъ, воинами, моровымъ повѣтриемъ (Будны, 8б); Абы идолослуженіа, непобожныѧ оученіа, члчскаѧ преданіа, и нечстивыа житьѧ вывестисѧ могли (Там жа, 184); вторымъ идолослуженіемъ офѣры ихъ именуются (АЗР, IV, 226, 1600—1605); всюдѹ идолосложеніе [так!] искоренял (Зб. 752, 23б). *Параўн.* идолобесие.

**Идолослужитель, идолослужытель** *наз. Той, хто служыць ідалам.* нѣхто идолослужітѣль принял ωбласть города того (Чэцця, 268б); ω ідолослужителехъ (Скар. КВ, 40б); Дрѹгый

грѣхъ идолослꙋжителеи...которыи або много боговъ быти вѣрꙋють, або створенію ꙗко створителю слоужѧть (Будны, 6); повинни карати Епикуреовъ, ідолослужителеи, лжеꙋчителеи, волхвовъ и кривокленущихсѧ (Там жа, 65б—66); Тимофе$^s$ ... по$^s$ман ωт идолослужытел и свезавшы прывели до арнана старосты (Зб. 752, 315б). *Парайн.* идоложрецъ.

**Идолохваление** *наз. Выражэнне пахвалы ідалам.* он$^s$ же введе людеи Ізраилевых$^s$ во идолохваление (Скар. ЧЦ, 216).

**Идолохвалитель** *наз. Той, хто хваліць ідалаў.* велить казити идолы и поругатисѧ идолохвалителем (Скар. ПБ, 23).

**Идолский** *гл.* идольский

**Идолъ** *наз. Статуя, скульптура, якім язычнікі пакланяліся як бажаству.* идолослоужітѣль... помыслил бжственыи ωбразъ нероукотворѣныи погоубити и идола в того мѣсто поставити (Чэцця, 268б); идолы Моисеи велить казити (Скар. ДЗ, 27); что пользуеть жертва данаѧ идолови (Скар. ІС, 49б); сокрушишъ всѧ идолы ихъ (Скар. КВ, 43б); ωтступоваша ωт гсда бога своего и служиша Ідоломъ (Скар. КС, 3); хвалили силу идоловъ своихъ (Скар. КЕ, 22); проклѧл$^s$ есть филистымлѧнин$^s$ Давыда идолы своими (Скар. ПЦ, 37б); идолы поганские сребро и золото робота рꙋк людских (Пс. XVI, 131б); гдѣ сѧ ідол и розличных балвановъ вже ωт колька сотъ лѣтъ такъ намножило, иже за ними и бога людъ посполитыи забылъ (Будны, 16б); Которие писмо ст҃ое на болваны и идолы написаное, на ωбразы ωборочают (Бельск., 348б); постановил собѣ ωферовники идолом (Біблія, 425); оного великого идола скрꙋшилъ (Карп., 32); Кꙋмиръ: Идωлъ, болванъ (Бяр., 67); потом ігемон жертву ꙋчинилъ идоломъ (Зб. 81, 63); ωбвалили балвохвалские идолы, а церкви бг҃у будовали (Зб. 752, 22б); ωфѣри идоломъ чинили (Зб. 82, 315); иныи длꙗ боꙗзни и муки идоломъ ωферовали (Пралог, 589); который постановилъ себѣ оферовникомъ Ідолов (Хран., 302б).

**Идольский, идолский** *прым. Язычніцкі.* имъ же сокрꙋшени быша капища идольскиꙗ (Чэцця, 26б); нас избавилъ ωт идольског поклонѣниꙗ (Там жа, 119б); ꙗвлено было во храмехъ идольских и в$^s$ сонмищахъ (Скар. ПЦ, 64); наделал$^s$ жерцевъ ωт людеи чуждих во храмехъ идольских (Скар. ТЦ, 159б); созвал$^s$ Гевуи всех жерцев$^s$ Ідольских (Скар. ЧЦ, 205); скажу храмы идолскиѧ ваше на горах$^s$ высоких, и кумиры сокрꙋшꙋ (Скар. КЛ, 51); Хс҃ сп҃ сител$^s$ нашъ, без$^s$ рꙋкꙋ моужескꙋ, ωтторгнꙋвшисѧ, лесть идол$^s$скꙋю выгладил$^s$, царство кнѧзѧ темности (Карп., 32); распадалисꙗ божницы и ꙋбило множество идолопоклонников и двох сн҃овъ идолскаго жерца (Зб. 752, 24); прелест идолскаѧ ꙋстала, а правовѣрие хрестиꙗнское почало сѧ ширит (Зб. 82, 116); вшедши до идолъской церкви вси болваны побилъ (Пралог, 594).

**Идолямитинъ** *наз. Прадстаўнік блізкаўсходняй народнасці.* Іꙋда ... совратисѧ к мужу ідолѧмитинꙋ именемъ Гирамꙋ (Скар. КБ, 69б).



**Идолямский** *прым. ад* идолямитинъ. ωтшедъ же Давыд ωттуду, и съкрисѧ въ пещеру идолѧмску (Скар. ПЦ, 47).

**Идумеанинъ** *наз. Тое, што і* идумей. ідумеанин$^s$ побил$^s$ жерцев$^s$, токмо един$^s$ авиаѳар$^s$ ꙋтече и возвести Дв҃дви (Скар. ПЦ, 47); не будете имети в ненависти ідумеанъ, понѣже суть братиѧ ваша (Скар. ДЗ, 44б).

**Идумей** *наз. Прадстаўнік старажытнай Ідумеі, блізкаўсходняй дзяржавы.* Ависай зась сынъ сарꙋкевъ поразил идꙋмеωвъ в долинѣ жꙋпъ солных (Біблія, 370); июда валчил противко идꙋмеωм ижъ были ωблегли израилчики (Кн. Мак., 55б); Гωла: Вꙋступене аб перестꙋпство егω мѣсто Ідꙋмеωв (Бяр., 264); вернулсꙗ Іωавъ и поразилъ Ідꙋмеωв в долинѣ зꙋпъ солныхъ (Выкл., 128); Ависай зась сн҃ь сарꙋсевъ поразилъ Ідꙋмеωвъ (Хран., 253б). *Парайн.* идумеанинъ, идумейчикъ.

**Идумейский** *прым. ад* идумей. всѧ земълѧ идумейскаꙗ служила естъ Давыдови (Скар. ДЦ, 81); Сынове Ізраилевы... обышли землю ідумейскую (Скар. ЛК, 45б—46); кто допровадит мѧ до земли идꙋмейски (Пс. XVI, 111); воротившисе ωттамтоле в землю свою и ωсѣлъ идꙋме$^s$ское царство (Біблія, 422); вси жидове которыи были в земле моавской, и амоніцкой, и Ідꙋмейской до которыхъ были ꙋтекли, пришли до Іꙋдейской земли (Хран., 355б).

**Идумейтянка** *наз., жан. да* идумей. цр҃ь соломонъ розмиловалсе женъ чꙋжаго родꙋ многихъ, и дочки фараоновы и моавитѧнковъ, и аммонитѧнковъ, идꙋмейтѧнковъ, и сидонтѧнокъ, и хеттѣꙗнокъ (Хран., 299б).

**Идумейчикъ** *наз. Тое, што і* идумей. дв҃дъ поразил идꙋме$^s$чиков (Бельск., 105); Не маешъ сꙗ бридит идꙋмейчиком, бо брат твой ест (Біблія, 227); ани вниевч тые идꙋме$^s$чикове ωбернꙋли, ани ωбернꙋт церковъ божꙋю (Зб. 259, 607б); идꙋме$^s$чикове слꙋжили жидом за пановаꙗ Дв҃да и Соломона (Выкл., 21б); Не маеш$^s$сѧ бридитъ Ідꙋмейчикомъ, бо братъ твой есть, ани егѵпчиком бо приходнем былъ в$^s$ земли егω (Хран., 157).

**Идучий, идучый** *дзеепрым.* **1.** *Ад* ити *ў 1 знач.* звѣзда каждого королѧ и его люд и спижоу оупередила а з ыдꙋчими шла а с стоꙗчими стоꙗла (Валх., 48); тижбы впередъ идучие его и всьледъ идучие верещали (Цяп., 28б); оузрѧт сн҃а чл҃чского идꙋчого на облацѣхъ нбсных (Каз. Кір., 52); двωх министрωв жацы из школы ст҃ого ꙗна и иншіи кгмѣнъ на оулици с погребꙋ идоучихъ мало не оукаменовали (Апакр., 31б); универсалъ о пропущенье трехъ Москвитиновъ, зъ земли Турецкой до Москвы идучихъ (АЗР, IV, 195, 1599); ꙋзрѣлъ велблюды идꙋчии здалека (Біблія, 56); поднесши иꙗков ωчи свои ωбачил исава идꙋчог а з ним чотириста мꙋжов (Бельск., 24); здалека обачилъ сына идꙋчого и поткалъ его (Каліст, I, 16); громадꙋ пꙋстелникωв идꙋчих ωбачил (Варл., 194); потрафилемъ въ пущи суседовъ моихъ, зъ медомъ идучихъ (АВК, XVIII, 352, 1646);

ȣзрелъ множество людеs идȣчых до себе (Зб. 255, 22б); иωрданъ идȣчимъ жидомъ роздвоилъсꙗ и сȣхȣю дорогȣ ȣчинилъ (Зб. 259, 524б); андроник... стретил женȣ свою идȣчȣю во ωдежи мȣжъскоs (Зб. 82, 88); студенту, идучому до Кіева, дали золотый одинъ (ИЮМ, XI, 104, 1697); затрыманіе людей длѧ набоженства идȣчихъ до Римȣ (Зб. вып., 44б).

**2.** *Ад* ити *ў* 2 *знач.* брат кгинвилов панством литовским мȣжне справȣючи мстислава кн҃жати слȣцког з воsском рȣским напротивко собѣ идȣчог поразил (Стрыйк., 519б); плачте а нарѣкайте на срокгіи бѣды вашѣ идȣчіи на васъ (Каліст, I, 36); великую бурливост мещанъ сварливыхъ и неспокоsныхъ, на двѣ части роздвоеных и ȣже до бою на сꙗ идȣчихъ поднесением креста ȣспокоил (Пралог, 593); слышавши то македонꙗне такъ силно идȣчое воиско порово и лвы сердитыи тогда ȣстрашилисꙗ велми (Алекс. 1697, 66).

**3.** *Ад* ити *ў* 5 *знач.* тотъ мой дворъ... где се розделяетъ улица, мимо костелъ Барнадынский идучая (АВК, XX, 44, 1582); поѣхалъ дорогою, до мѣста Березою идучою (АВК, II, 254, 1584); нива зъ лугомъ по дорогу, до лѣса зъ Чещевлянъ идучею (АВК, XIV, 392, 1591); Кестȣтиеви троки старие зо всим кнꙗзством жомоитским, з городном и ковном, ȣпитом, и лидою, аж до подлѧша при границы прȣскоs идȣчие досталисꙗ (Стрыйк., 534); знашолъ теды за ласкою Бж҃іею нѣѧкȣю печерȣ, напавши на стежкȣ тамъ идȣчȣю (Варл., 341б); приѣхалъ въ улицу въ мѣстѣ Берестейскомъ, ку Великому Мосту идучой (АВК, II, 310, 1639).

**4.** *Ад* ити *ў* 6 *знач.* тогды сѧ стало великое всих кликанье и верещанье ку небу идучое (Атыла, 232); ȣзрѣли ꙗмȣ ωднȣ вправѣ глȣбокою в землю идȣчȣю (Зб. 82, 47б).

**5.** *Ад* ити *ў* 8 *знач.* реки портовые через именье и кгрунтъ ихъ идȣчие вычищати и направовати... повинъни будуть (Ст. 1588, 41); замок смотрич ωт смотричи реки мимо идȣчои названыs (Стрыйк., 541б).

**6.** *Ад* ити *ў* 9 *знач.* на витине идучимъ с Кролевца до Вильна... учинившы шкоду... утеклъ (АВК, XX, 118, 1596).

**7.** *Ад* ити *ў* 15 *знач.* року теперь идучого... мѣсяца мая, десятого дня (АВК, III, 277, 1577), в векъ идȣчіи, животъ вечныи многие пакъ бȣдȣть первые, посьледними. а посьледние первыми (Цяп., 58); тое кгвалтовное нахоженье и стреляне сталосе в року тепер идучомъ (АВК, XXXVI, 255, 1582); в сем году тепер идучом тисеча пятсот осмъдесят пятом (АВК, XXX, 1, 1585); въ року теперъ идучомъ отъ нароженья сына Божьего тысячу пятьсотъ деветдесятъ третьяго (ИЮМ, I, 336, 1593); сужонъ въ року теперь идучомъ (АВК, XI, 85, 1596); почавшы ωт рокȣ тисеча шестсотъ одинадцатог аж до рокȣ тепер идȣчого шестсот петнадцатог десетины не выдали (ККСС, 42, 1615).



**8.** *Ад* ити *ў* 18 *знач.* прото абы жаденъ не смелъ повинъное собе ве крви поsмовати, ажъбы минуло чворо поколенье по собе идȣчое (Ст. 1588, 287); Даниилъ з поколѣньꙗ июды з зацного царского народȣ идȣчиs (Біблія, 554); з великих кн҃зеs литовских порꙗдною линѣею идȣчих... род вели (Стрыйк., 536); потыесть линѣꙗ поколѣниs пресвꙗтои богородицы по ωтцы идȣчȣю (Рым., 82); был тоs поликарпъ предняsшыs члв҃къ... наȣчител ωт апстловъ идȣчыs и пророкъ (Зб. 752, 559б); ст҃аꙗ Евдокиꙗ... была первеs поганка из родичовъ поганских идȣчаꙗ (Пралог, 484); онъ есть з народȣ хамовогω сына Нωевогω идȣчіи (Хран., 23б); была таꙗ пребл҃гословенаꙗ дв҃а Мариѧ ωт племени царского ереsског и пророческого идȣчаѧ (Зб. 82, 11).

**Идущий, идущый** *дзеепрым. ад* ити *ў* 1 *знач.* изыидет, с неб҃си великии чстныи крстъ с тысѧщами ан҃глъ идоущих оупередъ и ωпослѣ его (Чэцця, 375б); сталосе збежаніе людеи за ним идоущих (Пак. Хр., 9б); жена... звала идущихъ по ȣлици (Скар. ПС, 16б); вси идущии путемs, погледьте (Скар. ПЕ, 4); кгды видил ωднȣ ωсобȣ мимо идȣщȣю, зараз ωконко ωное залепил (Зб. 261, 144); позревши на исуса идȣщого рек, ωто агнец божыs (Зб. 255, 124б).

**Идъ** *наз. Яд.* ꙗдъ — идъ (Зіз., 75).

**Иевангелиста** *наз. Тое, што і* евангелиста. тот же и там же апслъ Іеѵглиста мовит (Карп., 5).

**Иезуитъ, иезоитъ** *наз. Тое, што і* езуитъ. ку активованю подалъ документъ... ихъ милостямъ отцомъ іезуитомъ колеюмъ Виленъского служачый (АВК, XXIV, 427, 1584); отъ отцовъ Іезоитовъ и отъ пана Максима Купцевича бурмистра Сидору Вакалару заплатили золотый одинъ (ИЮМ, IV, 147—148, 1686).

**Иелей** *наз. Тое, што і* елей. ꙗко Іелей кȣ болезнемъ телеснымs, оускромленію барзо помагаетъ, такъ моць тое ст҃ости смȣткȣ и болести дш҃евной оумнеишаеть (Навука, 119); болеть ли хто зs васъ да приведеть Іереи Ц҃ркωвныѧ, нехай сѧ над нимъ молѧть помазȣючи его Іелеемъ въ имѧ Гсдне, а мл҃тва з вѣры спасеть хорого (Дзід., 26—27).

**Иенералъ-маиорова** *наз. Жонка генерал-маёра.* сесь выписъ... Яновой Ернестовой Корфовой — іенералъ-маіоровой его королевское милости есть выданъ (АВК, XIII, 616, 1680).

**Иерапигра** *наз. Лякарства Галена.* выдал емȣ пропѫщеніе агарикωн іерапигра подлоуг лѣт и поведаніѧ что оувидитсѧ ωномȣ лекарю (Арыст., 208).

**Иерархия** *наз. Іерархія, парадак падпарадкавання, падначаленасць ніжэйшых чыноў вышэйшым па строга вызначаных ступенях.* Діонисій Ареωпагита в книгах ω ц҃рковной Іерархіи в Глав: е҃ и прочіи с҃: С тыхs становъ, ωдны сȣть болшіе а дрȣгіе меншіе: тыхъ которые первое посв҃щеніе маютъ, называемъ Клириками (Навука, 127); Иерархіꙗ в церкви божеи (Выкл.,

32); Moˢceˢ... речъ подавал Аронови болшии каплан меншемȣ, ȣчачи нас надобнои и церковнои иерархіи, Ажебысмы преложоных нш҃их дх҃овных слȣхали (Там жа, 32б).

**Иерархъ** *наз. Іерарх, царкоўна-афіцыйная назва епіскапа.* ктиторы храма ст Іерарха хв҃а николы... показали нам фȣндȣши церковнаго братства (Дыяр., 153).

**Иереевъ** *прым. ад* иерей. тое отроча презъ положеніе рȣки Іереевы до ласки Бж҃ой отриманѧ оуготовлѧетˢсѧ (Зб. вып., 13б).

**Иерей** *наз. Іерэй, адна з назваў свяшчэнніка ў праваслаўнай царкве.* иереи твои приоденоутсѧ в правдоу (Пс. XVI, 130б); каждому звѣдомо ижь оные ѡвцы, юнˢци, овны, телицѣ, вино, птахи, мукоу, соль, и прочаѧ, не съ нб҃си брали Іереи или жерци, або свѧщеници, але здѣ на земли (Будны, 214); іереи велми ѡмедлеют дх҃овніи и свѣтскіи так иже боудет сваръ межи іереи папежи (Сівіла, 8); тым способом оуказалъ нам собою слȣгъ своих, а наиболше іереѡв хв҃ых (Каз. Кір., 4б); соуды о наоуцѣ вˢ правѣ бж҃омъ, и в старомъ законѣ иереѡм даютсѧ (Апакр., 59); ȣста іереꙗ стерегȣт ȣмѣетности (Зб. 261, 200б); ты еси иереˢ во вѣки по чинȣ мелхиседековȣ (Бельск., 16б); іереемъ кривды чынятъ, біютъ и наругаются зъ нихъ (Гарм., 187); грѣшит смертельне хто бы се важилˢ без потребы не бȣдȣчи иереемˢ крстити кого (Навука, 19); Росказане сее Бж҃ее честномȣ семȣ Іереови такъ добре памѧтно было (Сматр., 38); Мѣвалъ Іерей на персѧхъ два камени дорогіи которіи имена дванадцати Патриарховъ вˢ собѣ мѣли (Мак., 298); іереˢ естем (Дыяр., 169); Мѵро: Масть, аб ѡлѣекъ пахнȣчій, ꙗковымъ помазȣють Іереѣ и царѣ (Бяр., 298); даетсѧ власть Іереѡви шафовати тайнами (Дзід., 28); мѵрѡм помазоватисѧ, и Іереемъ зоставати (Сакр., 2б); идѣте покажитесꙗ иереѡмъ ȣкажите имъ сȣмнене ваше (Зб. 259, 309б); могъ имстит кривды иереꙗ своего (Зб. 752, 211б); ѡтдана была през иереѡвъ чл҃вкȣ ст҃омȣ и праведномȣ во ѡбрȣчение малженское (Зб. 82, 175); една цр҃квъ ѡт хрста збȣдована и един навышшии иереи и пастыръ (Выкл., 79б); Ты еси Іерей (Хран., 26б); яжъ іерей имярекъ владзею (АВК, III, 99, 1681); Іерей маетъ по Лѵтȣргіи оучити людей (Зб. вып., 9б).

**Иерейский** *прым. ад* иерей. иерѣйскаꙗ похвала нетлѣнныꙗ радости сподобисѧ (Чэцця, 77б); тамъ одно поколенье леввитское кȣ послоузѣ иерейской было обрано (Апакр., 61); коли бы тыми словы не посщ҃алосѧ тѣло хв҃о, и была бы мова Іереискаѧ неправдиваѧ (Навука, 40); само достоенство егѡ Іерейское, и преложенство, Архімандритское (Сматр., 31); Требникъ: имѧ книзѣ млт҃въ Іерейскихъ (Бяр., 172); выдана ѡнаꙗ была скрынꙗ вˢ законѣ старом за грѣхи иереˢскиꙗ и людские злости (Зб. 752, 413б); мешкала завше при церкви в назначономъ еˢ мѣстцу ѡпеку и старане маючи ѡколо себе иереˢское (Пра-



лог, 543б); Мѵра ст҃аго простый Капланъ не можетъ ст҃ити, але тылко Епсп҃ъ... при седми Ереѧхъ, оубранныхъ вˢ одежды Іерейскіѧ (Зб. вып., 16б).

**Иерейство** *наз. Пасада іерэя.* Былъ бо обычаи... оныхъ помазовати елеомъ или масломˢ, се естъ, оливою, которихˢ на црство, або на Іереиство брано (Будны, 120); рекȣт противници, що оуже теперъ Іерейства и ѡфѣръ вˢ церкви христовой не потреба (Каз. Кір., 196б); мовит в книгахъ вторихъ ѡ иереˢстве (Бер. саб., 30б); гдеколвекъ бы былъ повѣдаетъ, бискȣпъ, хоть в римѣ, хоть в рекгȣ, хот в костантинополю, тоее ж есть годности заслоуги і иерейства (Апакр., 82); ст҃итель если бы кого вѣдаючи же не ест миром помазаныи, пост҃илъ на Іерейство, грѣшил бы смерьтельне (Навука, 28); Іерейства слȣжбȣ ꙗкъ ѡбходилъ, бг҃ȣ то самоимȣ налѣпшей вѣдомо (Сматр., 37); по вступленю порꙗдномъ на іереˢство зˢ воли бозскои и старшихъ моих былем намѣстником в монастырȣ дȣбоˢском под пинском (Дыяр., 158); жаденъ два разы креститисѧ, ани крестити, такъже Мѵромъ помазоватисѧ, и Іереемъ зоставати, албо два разы посщ҃ати на Іерейство не маетъ (Дзід., 4); четвертаѧ есть Покаѧніе, алболи Покȣта, Пѧтаѧ Маслосщ҃еніе Шестаѧ Іерейство Семаѧ Малженство (Сакр., 2б); маетъ быти низверженъ ѡт Іерейства (Зб. вып., 33б).

**Иеретикъ** *наз. Тое, што і* еретикъ. Были иеретикове жидовские, досытеˢ самарꙗнин, которыˢ напервеˢ пророки ꙗкобы не мовили ст҃ым дх҃ом ѡтметал из его блȣдов и кореня походили саддȣкеѡве (Бельск., 197б).

**Иермонахъ** *гл.* иеромонахъ

**Иеродиаконъ, иеродьяконъ** *наз. Ірадыякан, манах у сане дыякана.* четвертый іеродьякон отецъ Макарій Кгелимонтъ (АЗР, IV, 313, 1609); межи которыми абы были принаймней жъ по дву священноиноки и по одному іеродіакону (АВК, XI, 88, 1619); Вѣдати даеть смиреніе мое... іеродіаконъ Филиппъ отъ апостатовъ Виленскихъ (АСД, I, 264, 1621).

**Иеромонахъ, иермонахъ** *наз. Іераманах, манах у сане свяшчэнніка.* Слȣга и Бг҃омолецъ оуставичный Недостойный Іеромонахъ Леонътій Карˢповичъ (Карп., тыт.); старшый того монастыра теперешній, іеромонахъ Іоасафъ (АЗР, V, 11, 1633); способными и годными на то особными іеромонахами... пристойне опатронъ быти могъ (АСД, II, 63, 1637); исписаныˢ през смиренного іеромонаха Афанасіа филиповича (Дыяр., 147б); священника, любъ іеромонаха старца для отправованья литургіи святой изъ которого-кольвекъ монастыря православного самимъ игуменіѣ съ сестрами инокинями затягати вольно будетъ (АЗР, I, 70, 1641); іермонахъ Іосафъ Половко, наместникъ епископіи мстиславское, оршанское и могилевское, рукою власною (ИЮМ, IX, 522—523, 1646); Іермонах Іѡгіль Трȣцевичъ Ігȣменъ со всею ѡ хрстѣ братіею монастыра Кȣтеинˢского (Бяр., Прадм.); Я іеромонахъ Іоанъ Богушъ, яко духовный

въ богу зешлого, подписуюсе (АВК, VI, 465, 1674); не хотять... іеромонаха Іеронима имѣти себѣ за игумена (АСД, XI, 115, 1720).

**Иеросолимчикъ** *наз. Тое, што і* иерусалимлянинъ. еремеꙗ мовитъ нарекаючи на жидов и плаче же сꙗ стали неволники иеросолимчици (Зб. 261, 79б—80).

**Иерусалимлянинъ** *наз. Жыхар Іерусаліма.* приходили до слȣханѧ наȣки его вси иерȣсалимлѧне (Зб. 259, 623б); в той час было зобрано без числа людȣ... римлꙗне, иерȣсалѣмлꙗне мѣдꙗне (Алекс. 1697, 92). *Параўн.* иеросолимчикъ.

**Иерусалимский, иерусолимский** *прым. Іерусалімскі.* горъшыи былъ тым землѧмъ, и ѡкрутнеишыи на нихъ нижли Антиѡх Сирскии, и Иродъ Иерусалимскии (Рач., 307); июда маккавѣй з братею своею ѡблеглъ замокъ иерȣсолимскиѕ (Кн. Мак., 56б); ст҃ый Іоанъ Дамаскинъ, приводѧчи на плѧц и гисторикѡв, и Ювеналіѧ Патріархи Іерȣсалимскаго свѧдецство (Карп., 43); Радȣйсѧ барзо церко Іерслимскаѧ, веселисѧ и триоумфȣй ѿ всего срдца своего (Каліст, I, 41б); іс҃ хс҃... дал всѣмъ людем своимъ на всем том свѣтѣ видомым ведлугъ пꙗти смыслов, пꙗт столиц на ȣтѣчку дх҃овнȣю: то ест столицȣ іерȣсалимскую Алеѯандриѕскую, Рымскую Антиѡхиѕскую константинополскую и патріарховъ в них пꙗт на преложенство и на наȣку (Дыяр., 172б); мовитъ Кирил ст: Іерслимскій тыми словы (Дзід., 15); Што коли оуслышалъ Адонивезокъ цр҃ь Іерȣсалімскій, послал до Елама црѧ хевронскагѡ (Хран., 166б).

**Иесеянинъ** *наз. Тое, што і* иессей. были иесеꙗне (ѡ которых тот же иѡсифъ мовит) которые ѡфѣр в церкви соломоновоѕ не чинили менȣючи мѣт ꙗкиес ст҃обливые церемонии (Бельск., 197б).

**Иессей** *наз. Прадстаўнік сярэдневяковай рэлігійнай секты.* по мордованю жидовы ѿ антиоха вщалисꙗ секты троꙗкие жидов, то ест были фарисеи, садȣкеи, иессеи (Бельск., 165б). *Параўн.* иесеянинъ.

**Иетроговый** *прым.* [?] возмет воды железныѧ и оузварить в сих ꙗзыка волового четыре золотники. кȣпины же иетроговои три золотники. гвоздиков толченых ползолотника (Арыст., 216).

**Ижба** *наз. Тое, што і* изба *ў* 1 *знач.* лазня зъ сѣнцами, верьхъ не накрытый, ижба чорная старая немалая сѣньми, крыта драницами, стайня немалая драницами крыта з воротми (АВК, XIV, 411, 1591).

**Ижбы** *зл.* 1. *Каб, для таго каб.* хочемо, естли бы такъ заисто мытникъ што бралъ на нихъ, ижъбы яко розбойникъ каранъ былъ (АЗР, I, 24, 1388); Тогды мы сказуемъ: поручникови свидѣчьствомъ доводить, ижьбы Миколаеви заплачены тыи пѣнези (Вісл., 15); Хотимъ тежъ, ижъбы тое место нашо цынъшъ... давало (КЗ, 7, 1486); писа грамотоу братоу своемоу великомоу кн҃зю Витовтоу иж бы тои его жалости месть сотво-



риль (Увар., 94); может ли тое быти ижбы ѿшол тотъ келих албо чаша таꙗ ѿ мене (Пак. Хр., 5б); мы ѡ томъ ѡпять ѿписали до пана ꙗнуша, ижь бы его милость, как могȣчи, тыхъ злодеевъ казалъ имати (КСД, 66, 1510); А то длѧ того ижѕбы толико самого Навходоносора имели за бога (Скар. КЮ, 11); всихъ епискуповъ листы нашими господарьскими обослалъ ижьбы они на рокъ... на Соборъ ся зъѣхали (АЗР, III, 3, 1546); ижбы судили подле сего статуту в розделе д҃ артыкул л҃ на концы (Ст., 1566, 1); ȣвидевши его просили ижѕбы былъ ѿтышолъ (Цяп., 11); абы в небытности его ѡному панству его на чом не сходило, а ижбы был тот, которыи бы на его мѣстцу королевством владнул, прото буду брата своего преложыл надъ усею ѡною краиною (Атыла, 179); ижбы таковые справы ѡ почстивость на сеимъ припалые завьжды сȣдити и ѿправовати на соиме могли (Трыб., 5б); маемъ его росказати зо всихъ земль паньствъ нашихъ выволати вечнымъ выволаньемъ такъ ижъбы сѧ николи в границы паньствъ нашыхъ не ворочалъ (Ст. 1588, 256); напоминал грозил козакомъ ижъбы ѡни никоторого кгвалтȣ в месте по селахъ не чинили (Барк., 166б); волимъ, ижбы она пани хоружиная намъ нашу властность отприсегла (АВК, VI, 229, 1603); неподобнаꙗ реч ижбы ȣмыслъ простыѕ людскиѕ так сȣптелных высоких и предивных речеѕ досвѣдченꙗ и выбаданꙗ моглъ достȣпити (Стрыйк., 413б); наменил фараѡнови, ижъбы мене вывелъ з сеи темницы (Біблія, 90); целую ночъ их стерегли, ижбы з них жаден не моглъ ȣѕти (Хр. польск., 21б); дш҃а цнотами ѡбогаченаѧ такѕ сѧ бȣдеть вѕ цр҃кви, не ижбы оучинила, але же в ѕ пожадани мѣла (Мак., 318); если бы где так трафилосꙗ ижбы діакони посвꙗтили собѣ сщ҃енника (Дыяр., 165); таемницъ церковных довѣдалъ, не ижбых имъ вѣрыл, але жебым их всимъ ѡзнаѕмилъ (Зб. 752, 464); немашъ на земли радости, ижъбы сꙗ не переменила в жалост (Алекс. 1697, 37—37б). *Параўн.* ижебы *ў* 1 *знач.*

2. *Быццам, нібы; што.* неции мовꙗть ижбы тот ѳома даль кн҃зю Скиргаилоу зелие ѿтравное пити (Увар., 95); некоторие кн҃ги молѧт ижбы ѡны на гиньштех на дромедарех такъ борздо преѣхали (Валх., 48б); с того гробоу пресланыи запах запахноул ажь оусим виделосе ижбы был дорогихъ мастей полонъ (Жыц. Ал., 99б); жаловала намъ мещанъка Ковенскаꙗ Мартиноваꙗ на мещанина плебана Ромикгальского князя Юрьева, на ꙗна Анъдреевича: ижьбы ѡнъ по смерти первого мужа ее дерево ванъчосъ и клепки въ нее поѡтнималъ (КСД, 938, 1517); Знаю тое ижьбы потреба сію наȣку достаточней выписати (Будны, 8б); жаловали намъ бояре наши... о томъ, ижьбы Илькговский, приворочаючи ихъ ку службе путницкой, земли ихъ на волоки померилъ (АВК, XXII, 435, 1570); так знаменали собѣ, ижбы богъ мѣлъ просити (Рач., 305); который возный сознаваеть то на сознанью своемъ, ижьбы он... мелъ видеть мене и тые слова слышети (АВК, XXXVI, 41, 1582); смок...

